


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

17 лістапада 2000 года
№ 46 (291)
Цана ў розніцу 96 рублёў

ТУ плюс

## Навіны рэгіёна

### Другая аб'язная. Пакуль без асфальту

**АСТРАВЕЦ.** Амаль 120 мільярдаў новых рублёў спатрэбілася на будаўніцтва другой аб'язной дарогі вакол райцэнтра, якую пабудавала мясцовае ДЭУ-149. Заказчыкам дарогі выступіў «Гроднааблдарбуд».
Для аўтавадзіцеляў ёсць і "лыжка дзёгцю". З-за недахопу фінансаў на аб'язной дарозе не паклалі асфальт і зробяць гэта толькі пры наяўнасці грошай. Хутчэй за ўсё, у наступным годзе.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Калгасы і заводы адключаюць

**СМАРГОНЬ.** 2 мільярды 851 мільён рублёў завінаваціліся энергетыкам суб'екты гаспадарання раёна за электраэнергію.
Лідзіруе сельская гаспадарка — 715 мільёнаў. Раён электрасетак пачаў ужо адключэнне калгасаў. У "Светлым шляху" і імя Леніна навешаныя пломбы на размеркавальныя шчыткі ў канторах, адключаныя пілорамы.
Прамысловасць павінна 255 мільёнаў. За даўгі адключылі частку вытворчых магутнасцяў ліцейна—механічнага завода.

**Павел МАКЛЮК.**

### Пошта ў стылі еўра

**АСТРАВЕЦ.** На станцыі Гудагай нядаўна адкрыўся новы адміністрацыйны будынак пошты, зроблены ў сучасным еўрапейскім стылі.
Усе будаўнічыя работы "пад ключ" выканала астравецкая МПМК-158. На ўрачыстасць прыехаў дырэктар УП "Гродна-аблпошта" А. Худалей, які і перарэзаў святочную стужку.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Да поні будзе «прыбаўка»

**ВАЛОЖЫН.** Хутчэй за ўсё, жывёльны "парк" у Івянецкім дзіцячым доме—інтэрнаце атрымае прыбаўку. Да трох коней з месяц таму дадаўся поні. На ім ездзілі самыя маленькія выхаванцы інтэрната. Нямецкія шэфы, што наведалі дом—інтэрнат, далі дырэктару грошы, каб купіць яшчэ аднаго поні.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Новая панацэя ад беднасці?

**МАЛАДЗЕЧНА.** Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** лічыць, што горад зарабляе на сваё ўтрыманне.
У Маладзечне ёсць установы, якія падпарадкоўваюцца раёну (мясакамбінат "Унікаб" і інш.). Расходы на іх утрыманні нясе горад, а падаткі ідуць у раённы бюджэт. Калі яны пойдуць у гарадскую кішэню, то, на думку М. Чурсіна, дзіркі можна будзе закрыць. Праблему ў свой час канкрэтна імкнуўся вырашыць яшчэ **Генадзь Карпенка**, але нічога не мяняецца.
З новага года дазвол на дзейнасць у горадзе філіялаў іншых арганізацый выканком будзе даваць толькі тым, хто адкрые разліковы рахунак у Маладзечне. Тады гэты філіял будзе плаціць у мясцовы бюджэт — цяпер падаткі філіялы плацяць у месцах, дзе зарэгістраваныя асноўныя прадпрыемствы.

**Аддзел інфармацыі.**

### Ліцэйскі хлеб

**МЯДЗЕЛ.** Пашырыўся асартымент у хлебапякарні Свірскага сельскагаспадарчага ліцэя. Да здобы дадаліся 4 гатункі хлеба — звычайныя і дыетычныя. Хлеб выпякаецца для сталовай ліцэя, купляюць яго і вяскоўцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Адмена электрычак



17 лістапада
адпраўленнем у 10—58, 13—41
прыбыццём у 10—47, 13—49

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 18 лістапада

**Мінск**
-6 — -1°С (уначы)
1 — 5°С (удзень)



**Вільня**
-1°С (уначы)
5°С (удзень)



Нядзеля, 19 лістапада

**Мінск**
-3 — 3°С (уначы)
2 — 4°С (удзень)



**Вільня**
1°С (уначы)
3°С (удзень)





Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.
**Апошнія штрыхі перад асвячэннем. Мастак Алесь Цыркуноў.**

# Людзі будуць дзівіцца

**МЯДЗЕЛ. Невялічкая вёска Чэхі ў Нарачанскім сельсавеце займела ўласны Крыж пры ўездзе. Вырабіў яго мастак, сябра творчай суполкі "Пагоня", Алесь Цыркуноў (ён ужо шмат год стала жыве ў гэтай вёсцы, толькі на зіму з'язджае ў Мінск). Крыж скрозь аздоблены разьбой, рэльефамі Ісуса Хрыста, Багародзіцы, анёлаў, святых і прыгожа размаляваны. Заняла гэтая карпатлівая праца ў мастака тры месяцы.**

— Задума зрабіць Крыж з'явілася яшчэ 5 год таму, — расказвае **Алесь Цыркуноў**. — Змяняліся эскізы, падбіраўся матэрыял: трэба быў высокі, стройны дуб. У той час лесніком у вёсцы Ясева (на Пастаўшчыне) быў **Уладзіслаў Шарай** — падказалі звярнуцца да яго. Паслухаў мяне і адказаў: "Дзеля такой справы я табе дапамагу, даўно адзін дуб нагледзіў". Шмат яшчэ людзей дапамагала: **Юрась Фурс** з Пастаў выкаваў металічнае аздобленне для Крыжа, жыхары вёскі ўладкоўвалі для яго месца.

І яшчэ пра адну асаблівасць Крыжа расказаў мастак:

— Я хацеў (не ведаю, як мне гэта ўдалося), каб Крыж увасабляў еднасць нашага народа, які па канфесійных прыкметах падзелены на часткі. Таму змясціў рэльефы святых, якія ўшаноўваюцца і праваслаўнай, і рыма-каталіцкай, і грэка-каталіцкай царквамі. На Крыжы яны мірна суіснуюць — хацелася б, каб і паміж людзьмі было такое адзінства.

Асвяціл Крыж пробашч мясцовай парафіі **айцец Арказдзь** і уніяцкі святар з Мінска **айцец Казімір**. Сабраліся жыхары з Чэхаў, падышлі людзі і з навакольных вёсак, пад'ехалі і з Пастаўшчыны. Бабулькі гаварылі:

— Во, цяпер "нячысцікі" будуць вёску абмінаць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Экспрэс—апытанне маладзечанцаў

## Якая сёлетняя падзея для вас найбольш значная?



**Анжаліка Яраш, прадавец:**
— Пазнаёмілася з цікавымі людзьмі, якія потым сталі маімі сябрамі. Для мяне важна, што ёсць людзі, якім я магу даваряць.



**Васіль Пагарэлаў, вучань гімназіі:**
Летам у складзе маладзечанскай каманды заняў другое месца ў рэспубліканскіх спаборніцтвах па стрытболе, што праходзілі ў Магілёве. А перад гэтым гулялі на абласных спаборніцтвах у Слуцку.



**Ала Жойдзік, выкладчык чарчэння:**
40-годдзе палітэхнікума. Па-першае, я тут працую з 1980 года, па-другое, да гэтага свята доўга рыхтаваліся, па-трэцяе, яно прайшло на "выдатна". Да таго ж, сустрэлася з былымі вучнямі.



**Алена Абалішына, прадавец—касір:**
— Запомнілася свята 8 Сакавіка. Нас добра павіншавалі на рабоце, падарылі шмат кветак.
У асабістым жыцці гэты год склаўся для мяне надзвычай добра.



**Аляксей Папоў, прадпрымальнік:**
— У ліпені нарадзіўся сын Ян. Жадаю яму стаць вялікім і тоўстым. Цяпер ён адчувае сябе на "выдатна". Наконт сваёй работы скажу: дай Бог, каб яна была такая, як сёлета!



**Аляксей Сулім, навучэнец ПТВ—135, 2 курс:**
— Выйшаў новы альбом "Грамадзянскай абароны" — "Вайна". Альбомы "ГА" выходзяць не так і рэдка, толькі я вялікі фанат. А ў цэлым, гэты год для мяне быў не самы лепшы.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ АЎТААМАТАРУ

# На зімовую гуму

## Калі тэмпература зніжаецца да 7 градусаў, здольнасць да счаплення летніх пакрышак з дарогай гвалтоўна зніжаецца

**Праз колькі дзён на дарогі можа выпасці першы снег. Для кіроўцаў, якія дбаюць пра бяспечную язду, гэта павінна стаць сігналам памяняць летнія пакрышкі на зімовыя. Летнія пакрышкі для шашы папросту не падыходзяць для язды па снезе і лёдзе.**




Не абуўся ў зімовую гуму… Маладзечна.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Сёння ўжо большасць вадзіцеляў пераканалася, што адзін від пакрышкі не можа падыходзіць да розных умоў надвор'я. Прычыны простыя. Не атрымліваецца вырабіць такую гуму, якая б была аптымальна эластычнай і счаплялльнай з паверхняй дарогі пры тэмпературах, шмат вышэйшых за нуль, і таксама не траціла эластычнасці і здольнасці да счаплення пры нізкіх тэмпературах. Ужо пры 7 градусах па Цэльсію здольнасць да счаплення летніх пакрышак нават на сухой дарозе катастрафічна падае. Не атрымліваецца таксама зрабіць пратэктар такім, каб на сухім асфальце гума была ціхая, захоўваючы адначасова здольнасць да добрага счаплення на слізкіх паверхнях. З гэтых прычын не існуе чагосьці такога, як універсальныя пакрышкі.

Вядома, у продажы можна знайсці менавіта так званыя вытворцам. Яны блізкія да летніх, але маюць пратэктар вельмі багаты рысункам, каб лепей здавалі экзамен на мокрай і бруднай паверхні, выкананыя з больш эластычнай гумы. Смела імі можа карыстацца той, хто летам не ездзіць хутка, а зімой не выязджае за горад.

Пра карыстанне "універсальнымі" пакрышкамі няма гаворкі, калі летам жадаеце ездзіць хутка і камфартабельна, а зімой шмат падарожнічаеце за горадам. У такой сітуацыі неабходна рашыцца на тое, каб купіць два камплекты гумы. Перавагі зімняй гумы пацвердзіць кожны, хто хоць раз кіраваў аўтамабілем, абутым у зімовую гуму, па заснежаным і слізкім гасцінцы. Так, цудаў не здараецца, але сапраўды можна досыць хутка і ўпэўнена ехаць ва ўмовах, калі кіроўца, які ўжывае летнія пакрышкі, мае пастаянны клопат з апанаваннем сваёй машыны. Аўтамабіль робіцца больш устойлівы ў бакавых заносах, тармазны шлях на галалёдзе карацейшы на 30 працэнтаў. Куды лацвей ехаць па паверхні, пакрытай лёдам ці снегам.

Тут няма вялікіх таямніц. Дзякуючы спецыяльным даткам, гума захоўвае эластычнасць і высокі каэфіцыент трэння нават пры тэмпературы мінус сорак градусаў. У зімовай гумы абсалютна іншы пратэктар. Акрамя вялікіх класічных раўкоў на ім можна знайсці шмат дробных насечак, называных ламелькамі. Яны ўгрызаюцца ў снег і лёд. Акрамя таго, штораз часцей зімовы пратэктар мае асіметрычны рысунак.

Тым, хто наракае на дадатковыя выдаткі, трэба нагадаць, што ездзячы на зімовай гуме, не ўжываеце летнюю.

**Ігнат САМУСЕНКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 9 лістапада | 16 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 1074,00 руб. | 1085,00 руб. |
| Нямецкая марка | 471,11 руб. | 476,98 руб. |
| Літ | 268,43 руб. | 271,28 руб. |
| Расійскі рубель | 38,64 руб. | 39,20 руб. |
| Злоты | 235,37 руб. | 238,75 руб. |
| ЕЎРА | 919,45 руб. | 932,88 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1090 – 1100 руб. | 1100 – 1120 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 08.11 | 15.11 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1580 | 1580 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 5100 | 5800 |
| Сасіскі, 1 кг | 1450 | 1680 |
| Селядзец, 1 кг | 950 | 990 |
| Рыс, 1 кг | 390 | 360 |
| Грэчка, 1 кг | 480 | 460 |
| Цукар, 1 кг | 530 | 530 |
| Алей, 1 л | 650 | 650 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 580 | 620 |
| Маянэз, 250 г | 230 | 230 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1000 | 1100 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 360 | 360 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 330 | 350 |
| Лімоны, 1 кг | 990 | 1000 |
| Апельсіны, 1 кг | 690 | 690 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 150 | 140 |
| Капуста, 1 кг | 60 | 60 |
| Морква, 1 кг | | 120 |
| Кавун, 1 кг | 180 | 200 |
| Вінаград, 1 кг | 700 | 900 |
| Хурма, 1 кг | 1400 | 980 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 700 | 900 |
| Масла, 1 кг | 1700 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 600 | 800 |
| Малако, 1,5 л | 300 | 320 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 1000 |
| Бульба, вялікае вядро | 600 | 450 |
| Морква, 1 кг | 130 | 100 |
| Яблыкі, 1 кг | 300 | 200 |

■ ДАІ ІНФАРМУЕ

## Новыя памеры збораў за паслугі ДАІ

**З 8 лістапада ўступаюць у сілу новыя расцэнкі за паслугі ДАІ.**

Цяпер выдача нумароў на легкавы аўтамабіль будзе каштаваць 21100 рублёў (дублікат – 31650 руб.), на матацыкл – 4300 руб. (дублікат – 6450 руб.). За знак Рэспублікі Беларусь трэба заплаціць 370 руб. Сертыфікат аб праходжанні тэхагляду каштуе 350 руб. Тэхнічны пашпарт – 5800 руб. (дублікат – 8700 руб.). Пасведчанне кіроўцы з талонам да яго – 6000 руб. (дублікат – 9000 руб.).

Заўважу, што ўсе названыя разлікі робяцца праз ААБ "Беларусбанк" Мінска (атрымальнік – ДАІ). Правядзенне тэхнічнага агляду аўтамабіля каштуе 400 руб., матацыкла – 200 руб. Гэтыя разлікі можна аплаціць і ў мясцовых аддзяленнях ААБ "Беларусбанк" (атрымальнік – падатковая інспекцыя).

За нумары і пасведчанні аб рэгістрацыі на аўтамабілі і мотакалястскі інвалідаў, атрыманыя бясплатна ці на льготных умовах праз органы сацыяльнага забеспячэння, зборы не бяруцца. За нумары, пасведчанні кіроўцы і пасведчанні аб рэгістрацыі для ветэранаў і інвалідаў вайны і пенсіянераў прадугледжаная скідка 50% ад названых ставак. За нумары, атрыманыя паўторна, зборы бяруцца ў памеры 50% ад ставак.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

## Пра п'яных кіроўцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Начальнік ДАІ У. Балкоўскі адзначае, што толькі за 10 месяцаў затрымана 741 чалавек, якія кіравалі транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення.**

Згодна з правіламі дарожнага руху, за кіраванне аўтамабілем у стане алкагольнага ап'янення прадугледжаная адказнасць у выглядзе пазбаўлення вадзіцельскага пасведчання на тэрмін ад 12 да 36 месяцаў або штрафу ад 5 да 20 мінімальных зарплат. Ад усёй колькасці 80% пазбаўленыя правоў, а 20% аштрафаваныя.

Цікава, што скідка робіцца для працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Звычайна штрафуюцца менавіта яны. Недахоп кадраў становіцца своеасаблівай гарантыяй "недатыкальнасці" пасведчання.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

## Змяніліся тарыфы на праезд

**Зацверджаны новыя тарыфы на праезд пасажыраў у аўтобусах рэгулярных маршрутаў прыгарадных і міжгародніх зносінаў.**



| Прыгарадныя зносіны | аўт. аг. тыпу | аўт. з мякк. адк. сядзеннямі |
|---|---|---|
| Звычайны маршрут | 8,2 руб/км | 8,8 руб/км |
| Скорасны маршрут | 10,7 руб/км | 11,4 руб/км |
| Дадатковыя рэйсы | 11,1 руб/км | 11,9 руб/км |

| Міжгароднія зносіны | аўт. аг. тыпу | аўт. з мякк. адк. сядзеннямі |
|---|---|---|
| Звычайны маршрут | 12,0 руб/км | 13,7 руб/км |
| Скорасны маршрут | 15,6 руб/км | 17,8 руб/км |
| Дадатковыя рэйсы | 16,2 руб/км | 18,5 руб/км |

За папярэдні продаж і браніраванне білетаў устаноўлены збор у памеры 40 рублёў з кожнага білета. Плата за правоз багажу – 20% ад кошту праезда.

**Аддзел інфармацыі.**

■ КАБЕЛЬНАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

# Рэарганізацыя кабельнага тэлебачання

**МАЛАДЗЕЧНА. Невялікая інфармацыя «Антэну» ліквідуюць» у мінулым нумары атрымала вялікі рэзананс. Невядомы прадстаўнік "Антэны" нават сцвярджаў па тэлефоне, што іхняе прадпрыемства не ліквідуецца (хаця і не зусім зразумела, як можна ўвайсці ў новую структуру і застацца "незалежным"). Занепакоіліся і гараджане: ці не здарыцца так, што рэзка падвялічыцца плата за карыстанне сеткамі? Каму цяпер плаціць? Ці не зменшыцца колькасць рэтранслюемых каналаў?**

Нагадаю, у гарвыканкоме задаліся мэтай аб'яднаць усе тры прадпрыемствы, што аказваюць у Маладзечне паслугі кабельнага тэлебачання, пад адным дахам – у "Маладзечанскіх кабельных сетках". Задума, здавалася б, мае пад сабою высакародныя мэты: прывядзенне да агульнай лічбы цэн на паслугі, упарадкаванне колькасці тэлеканалаў і да т. п. З іншага боку, падаецца, гараджанаў абмяжоўваюць у магчымасці выбару тэлеканалаў альбо канкрэтнай фірмы–"правайдэра" з найбольш прымальнымі расцэнкамі. Хаця на практыцы гэтыя фірмы даўно падзялілі горад на сферы ўплыву і, скажам, у шостым мікраараёне ўладарыла адна, а "на парашках" зусім іншая.

На гэты момант гаворка ідзе, на мой погляд, аб пераразмеркаванні сродкаў за трансляцыю тэлепраграм. Калі раней яны ішлі ў кішэню людзей, якія і арганізавалі ў свой час сістэму кабельнага тэлебачання, то цяпер значная частка пойдзе ў бюджэт. У сувязі з гэтым, нельга не прыгадаць нязручнасці жыхароў з–за адсутнасці ў многіх дамах калектыўных антэн, абавязак камунальнікаў забяспечыць трансляцыю "тэле–мінімуму" у нашыя кватэры (СП «Тэхнатронік», прыкладам, мае настойлівыя просьбы жыхароў некаторых дамоў па Вялікім Гасцінцы, вуліцах Таміліна, Буйніцкага з просьбай падключыць іх да кабельнага тэлебачання - калектыўная антэна дае магчымасць прымаць толькі тры праграмы, ды і то з вельмі нізкай якасцю)...

У выпадку паспяховай рэалізацыі задумы арганізатарам сістэмы кабельнага тэлебачання ў горадзе стане горш, а вось ці выйграем мы з вамі (падаткаплацельшчыкі) ад папаўнення бюджэту – пытанне.

Можна прагназаваць, што ў бліжэйшы час наўрад ці што зменіцца. «Шанс-ТВ», прыкладам, улетку прайшоў перарэгістрацыю, пачаў рэканструкцыю сваіх кабельных сетак (у прыватнасці, дадалі два новыя каналы), на прадпрыемстве збіраюцца расшырацца.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Палітэхнікум абакралі на 1000 долараў

**МАЛАДЗЕЧНА. Вялікія лістападаўскія выхадныя дадалі зубнога болю кіраўніцтву палітэхнікума, бо адзначыліся рэвалюцыйнай экспрапрыяцыяй: у адной з лабараторый зніклі 2 сістэмныя блокі ад камп'ютэраў.**

Нягледзячы на тое, што ў памяшканні ўсе дні знаходзіліся вахцёры, ніхто з іх нічога не заўважыў. Лабараторыя, дарэчы, размяшчаецца на другім паверсе.

З сабой невядомыя прыхапілі прынтэр. Акрамя гэтага, у кабінеце быў яшчэ адзін сістэмны блок, а таксама маніторы і прынтэры.

Матывам крадзяжу менавіта сістэмных блокаў, на думку следчага па справе **Анатоля Гарабца**, можа быць тое, што некаторыя дэталі ўтрымліваюць золата. Зламыснікі пакінулі ўліку – адбітак участкаў далоні.



Палітэхнікум пацярпеў не ўпершыню. Раней з прыёмнай дырэктара знік факс. Зламыснікаў тады не знайшлі.

Бухгалтэрыя палітэхнікума ацэньвае ўрон у 1 мільён 75 тысяч рублёў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

